Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# РЭХА

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Серада 8-га ліпня 1925 г.

## На палітычным гарызоньце.

З прычыны арышту рэдактара газэты „Іскра“ беларускае насяленьне ў межах Польскае дзяржавы, чытаючае „кірыліцай“, аказалася зусім пазбаўленым свайго незалежнага органу. І гэты новы ўдар па беларускай прэсе—тым балей балючы, што прыпыненьне газэты зыйшлося з вельмі важнымі палітычнымі здарэньнямі, якія вымагаюць належнага асьвятленьня.

Перад усім—справа выхаду з Беларускага Пасольскага Клюбу чатырох дэпутатаў з грам. Тарашкевічам на чале, якія стварылі новую парляманцкую фракцыю пад назовам: *Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада.*

Факт гэты ў далейшым разьвіцьці беларускага палітычнага жыцьця ў Заходняй Беларусі мецiме бясспрэчна вялікае значэньне. Ідэя адзінага беларускага нацыянальнага фронту, які быў пры сучасных варунках нашага існаваньня пад уладай Польшчы абсалютна неабходны дзеля *парляманцкае барацьбы*, у меру таго, як масы губляюць усё балей веру ў памысныя вынікі такое барацьбы, траціць сваю галоўную падставу і саваё апраўданьне. І вось, новая беларуская парляманцкая фракцыя, як кажуць яе павадыры (сваей палітычнай дэклярацыі яна йшчэ не апублікавала), шукае *новых шляхоў змаганьня* за ідэалы нашага працоўнага народу, веручы ў зьдзейсьненьне іх ня шляхам парлямантарызму, а выключна ў *сувязі з вялікімі сусьветнымі здарэньнямі і перастройкай сацыяльнага ладу ў Польскай дзяржаве.* Гэтым і тлумачыцца назоў новае фракцыі, які стаўляе на першым месцы элемэнт сацыяльны.

Астаўшыяся ў складзе старога Беларускага Пасольскага Клюбу беларускія дэпутаты і сэнатары йдуць далей шляхам парляманцкае барацьбы за правы беларускага народу, як і маніліся, ідучы ў Сойм і Сэнат. Яны і далей падтрымліваюць лёзунгі сваей выбарнай плятформы. Але і сярод іх можна заўважыць *далейшае ідэйнае і тактычнае расслаеньне*, якое суліць далейшую перабудову нашага парляманцкага прадстаўніцтва.

У адным з апошніх нумароў „Іскры“ была надрукована прамова сэнатара Назарэўскага. У гэтай прамове лёгка дагледзіць паважнае разыходжаньне яго з усей дасюляшняй палітычнай і тактычнай лініяй Беларускага Пасольскага Клюбу: так, сэн. Назарэўскі, ня гледзячы на выразна апазіцыйнае становішча Клюбу ў адносінах да ўраду братоў Грабскіх, вітае назначэньне п. Рачкевіча на становішча міністра ўнутраных спраў,—вітае, ня гледзячы на выразна няпрыхільныя да беларусаў заявы п. Рачкевіча і яго ўжо зусім варожую да беларускага грамадзянства палітыку ў бытнасьць яго дэлегатам ураду ў Вільні.... А ў соймавых кулюарах з усьмешкай апавядаюць, што пан сэнатар быў у Баранавічах на адкрыцьці памятніка „невядомаму польскаму жаўнеру“ і... фатаграфаваўся пасьля разам з генаралам Янушайтісам, каторы арганізоўваў у Наваградчыне знамянітыя аблавы на беларусаў і адным махам арыштаваў больш за 1300 асоб, прыймаўшых балей ці меней яўнае ўчасьце ў беларускім руху....

Ясна, што і ў старым Беларускім Пасольскім Клюбе ідэя адзінага нацыянальнага фронту ня мае ўжо сілы, і трэба спадзявацца далейшага падзелу яго, ці прынамся „ачысткі“ яго ад элемэнтаў, яўна варожых да беларускае сялянскае ідэалёгіі.

Другім фактам, які ў сучасным палітычным жыцьці Польшчы зьяўляецца асабліва яркім і паказальным, быў выхад Жыдоўскага Пасольскага Клюбу з апазіцыі і пераход на „ляяльны да Польшчы“ (—а папраўдзе ня столькі да Польшчы, сколькі да ўраду братоў Грабскіх!) грунт. Фактычна ў гэтым нічога дзіўнага няма: *жыдоўская буржуазія* (бо-ж сярод жыдоўскіх дэпутатаў ёсьць выключна толькі прадстаўнікі буржуазіі!) *дагаварылася з польскай буржуазіяй* і за некаторыя прывілеі жыдоўскім заможным слаём здрадзіла штандар салідарнае барацьбы ўсіх „меншасьцяў“ за „вашу і нашу волю“. За тое, што ўрад пасуліў гадунцом жыдоўскіх (гэбрайскіх!) гімназіяў права паступаць у польскія ўнівэрсытэты і гэтак даць дзецям жыдоўскае буржуазіі доступ да вышэйшае асьветы, нічога ня кажучы аб школах для жыдоўскіх працоўных масаў; за тое, што жыдоўскім купцом маюць дазволіць таргаваць некалькі гадзін у нядзелю; за тое, што ім будуць дадзены некаторыя эканамічныя канцэсіі і крэдыты ў Польскім Банку,—за ўсе гэтыя прывелеі для жыдоўскае буржуазіі Жыдоўскі Клюб прадае ўраду братоў Грабскіх свае галасы ў Сойме і Сэнаце.

Гэты прыклад аб'яднаньня польскае і жыдоўскае буржуазіі павінен лішні раз паказаць працоўным масам Польшчы, якім шляхам яны павінны ісьці, каб супраць сілы паставіць сілу: гэта *шлях пралетарскае салідарнасьці.*

## Т. ВРУБЛЕЎСКІ.

У пятніцу, 3 ліпня, памёр у Вільні ўсім нам—сьмела можна сказаць: усяму нашаму краю—добра ведамы прыяцель народу беларускага, заўсёды шчыры, горачы і безынтэрэсоўны абаронца ўсіх пакрыўджаных і абвінавачаных, слаўны адвакат—Тадэуш Врублеўскі.

Пэўна-ж беларускае грамадзянства адгукнецца больш падрабязна на гэтую страту, — прэса дасьць яго дастойную ацэнку гэтай вялікай, сьветлай асобы нябожчыка... Мы цяпер толькі пад цяжкім уражаньнем гэтай сьвежай утраты—паведамляючы аб сумным здарэньні нашых чытачоў,—ад імя беларускага краю шчыра памянем нябожчыка—за ўсё тое добрае, што ён зрабіў для краю,—а ў тым ліку і для беларускага народу, для яго барацьбітаў—у цяжкія часы, якія мы цяпер перажываем.

Нябожчык лічыў сябе нацыянальна паляком, але ніколі не салідарызаваўся з **сучаснай дзяржаўнай Польшчай, лічучы сябе шчыра і павольна грамадзянінам Вялікага Княжства Літоўска Беларускага, а перадусім—грамадзянінам Вільні**, якой — назаўсёды было аддано яго вялікае, хаваўшае ў сябе ўсю яе гісторыю, сэрца.

Шчырая, гарачая падзяка Табе, вялікі вольналюбча, рыцару права і справядлівасьці, — ад найбольш з усіх пакрыўджанага беларускага народу — і вечная памяць у яго сэрцы — на векі вякоў!

## Народ з народам.

Былы літоўскі міністар, некалі пасол Літвы ў Бэрліне, прадстаўнік права-нацыяналістычнага кірунку ў літоўскім грамадзянстве, кс. Пурыцкіс,—добра **памятны беларусам сваімі варожымі да іх выступленьнямі.** Нам ведамы цэлы рад дробных, але вельмі паскудных „укусаў“, робленых гэтым панам беларускім прадстаўніком заграніцай.— Восьжа тым больш паказальнай з палітычнага пагляду зьяўляецца стацьця кс. Пурыцкіса, надрукаваная ў газ. „Lietuva“ і пададзеная польскай часопісяй „Kur. Wil.“.

Кс. Пурыцкіс, шукаючы саюзьнікаў для Літвы, кажа, што, побач з вялікімі саюзьнікамі, якіх Літва мусіць сабе прыдбаць, істнуюць і меншыя, а іменна беларусы і ўкраінцы, якія прад вякамі дапамагалі літвіном бароцца з крыжакамі. Аглядаючыся на мінуўшчыну, кс. Пурыцкіс вінаваціць павадыроў Літвы, што яны запрадалі гэтыя два народы паляком, ці-то польскай шляхце. Народы гэтыя захавалі сымпатыю для Літвы, дык літвіны павінны зрабіць з гэтага адпаведныя вывады і ўтварыць **супольны фронт з беларусамі** і ўкраінцамі, якія церпяць гэткі цяжкі польскі ўціск.

Так пераказвае зьмест стацьці кс. Пурыцкіса віленская польская часопісь.

Гэты голас „дзікога“ літоўскага нацыяналіста, некалі найзаядлейшага беларусаеда, паказуе, што літоўская палітычная думка памалу пачынае вызваляцца ад уплываў „зьвярынага“ нацыяналізму, які імкнуўся адгарадзіцца „кітайскім мурам“ ад усіх другіх народаў і ў сваей загарадцы спакойна пэратраўліваць „інародцаў“, якія разам з літоўскім народам апынуліся-бы ў гэтай загарадцы. Літоўскае грамадзянства ў сваім цэлым—бяз розьніцы партыяў і кірункаў—ад часу так-званага літоўскага сойму ў Вільні ў 1905 годзе абвясьціла было сваім дзяржаўным ідэалам уключэньне ў склад Літвы такога беларускага абшару (Віленшчына і часьць Горадзеншчыны), каб на ім беларусы прадстаўлялі **меншасьць**, раўнуючы да агульнае лічбы літвіноў у Літоўскай дзяржаве, наперад абвяшчаючы, што беларускае насяленьне Віленшчыны і Горадзеншчыны—гэта зусім **не беларусы**, а **„абмаскоўленыя літвіны“** (гл. кніжку літоўскага сацыял-дэмакрата Клімаса: Літва і яе суседзі), дык і павінны „вярнуцца“ да сваей запраўднай літоўскай нацыянальнасьці... І гэткую палітычную лінію Літоўская рэспубліка, ад самага свайго стварэньня, зусім пасьледавальна і няўхільна праводзіла як у сваей унутранай, так і замежнай палітыцы.

Заклік да новае палітыкі ў адносінах да беларусаў мы вітаем вельмі горача. Запраўды-ж, усялякія „кітайскія муры“ паміж народамі, якія маюць гэтак многа супольнага, як беларусы і літвіны,—гэта проста самагубства для іх! Пачынаючы разумець гэта, Літва распачала працу ў кірунку зьліжэньня перад усім з Латвіяй. Аб гэтым сьведчаць два кангрэсы „літоўска-латышскае еднасьці“, адбытыя адзін за адным сьпярша ў Рызе, а другі надовячы—у Коўні. Але якраз на апошнім былі прыняты рэзалюцыі, якія будзяць у нас сумляваньне адносна да шчырасьці літоўскіх палітыкаў, паскольку справа йдзе аб адносіны да беларусаў. Мы маем уражаньне, што **беларусы патрэбны літвіном толькі дзеля таго, каб дапамагчы Літве здабыць усё тую-ж беларускую Віленшчыну**, якую Літва маніцца „вярнуць“ да літоўскае нацыянальнасьці....

Маючы запраўды шчырую сымпатыю да літоўскага народу, мы хацелі-бы ўстанавіць як найлепшыя і найбліжэйшыя адносіны паміж нашым і літоўскім народамі. Але мы ня можам звужаць пытаньне аб беларуска-літоўскіх адносінах да нейкае служэбнае ролі нашага грамадзянства ў Заходняй Беларусі—адносна да імкненьня літвіноў стацца гаспадарамі беларускае Віленшчыны. Беларусь — нешта вялікшае за той кусочак нашае зямлі, аб які гэтак доўга ўжо сварацца між сабой літвіны з палякамі, жадаючы „навярнуць“ яго то на літоўшчыну, то на польшчыну. І мы — дзеля супольнае карысьці беларускага і літоўскага народаў—радзілі б ковенскім палітыкам **распачаць працу ў кірунку беларуска-літоўскага зьліжэньня, як суцэльных народаў.**

**Юрка Гарэлік.**

# Што нам суліць „зямельная рэформа“?

У сувязі з разгляданым цяпер у Сойме праектам „зямельнае рэформы“, якая падменена фактычна законам аб „парцэляцыі і асадніцве“, гожа будзе нам, беларусам, даць сабе адказ на пытаньне: каму-ж пайдзе ўся тая зямля, якая быццам мае быць аднята законам у абшарнікаў?

На гэтае галоўнае пытаньне законапраект ураду братоў Грабскіх дае адказ, які мо' дзе-інш, у якой іншай дзяржаве і паказаўся-б навет досьць „лібэральным“.. Дзе—інш, але, зразумела,—ня ў Польшчы, а найменш — на „Крэсах“, дзе „Польшча мае свае асаблівыя гістарычныя заданьні“, як заўсёды кажуць палякі...

Дык вось, дзе і як толькі сацыяльна-гаспадарчыя задачы зямельнай рэформы, якія добра разумее ўрадавы праект, пачынаюць пярэчыць гэтым „асаблівым“ дый яшчэ і „гістарычным“ заданьням“,—тут адразу першыя задачы адсуваюцца ў кут, а трыўмфуюць без падзелу другія...

Асаблівае значэньне маюць, як ведама, гэтыя „гістарычныя заданьні Польшчы“ на нашых „Крэсах“, якія, відаць, перад усім і мае на мэце законапраект. Дык увесь законапраект мае, так сказаць, два „фронты“,—падзелены, так сказаць, паміж двума міністрамі: агітацыйны „фронт“ пана міністра Скшыньскага, фронт, так сказаць, „ідэальны“, ці „жэнеўскі“—мае наагул усе „пазоры“ запраўднай, „агульнай“ для ўсей Польшчы, і „роўнай“, а навет паважнай зямельнай рэформы, якая прадбачыць запраўднае „аздараўленьне зямельнага ладу дзяржавы“ і г. д. Другі фронт—так сказаць „хатні“, унутраны,—рэальны фронт п. міністра Радвана,—якраз наадварот—кажа аб тым, як усе гэткія, можа, і паважныя, але прыкрыя рэчы, як запраўдная зямельная рэформа на „Крэсах“ зрабіць бяз шкоды для „гістарычных заданьняў, ці, калі можна, дык і зусім абыйсьці, павярнуўшы, так сказаць, дышла закону“ ў іншы бок...

Вось-жа „агітацыйны фронт“ праекту кажа:

1. Мэтай законапраекту зьяўляецца „аздараўленьне зямельнага ладу праз павялічэньне сільных і здольных да інтэнсыўнай (з накладам капіталу) вытворчасьці гаспадарак“.

2. Адабраная зямля пойдзе на павялічэньне істнуючых малазямельных „карлаватых“ *) — да разьмераў самастойных гаспадарчых адзінак; на стварэньне самастойных гаспадарак—хлебаробных, агародных, ці асадаў для рамесьнікаў стварэньне побач з местамі работніцкіх і... чыноўніцкіх калёніяў.. (арт. 32).

3. Пры кожнай парцэляцыі маёнтку першым чынам маюць быць зарэзаны дзелянкі для сямей „фальварчнай службы“, гэта значыць—тых парабкоў, якія працуюць у маёнтку, але трацяць заробак з яго раздрабленьнем.

Рэшта парцэляванага абшару будзе**) выкарыстана на дапаўненьне малазямельных гаспадарак суседніх вёсак і на тварэньне новых самастойных асадаў (дык—для „асаднікаў“?)... Міністар „Рэформ Рольных можа, аднак-жа, загадаць, каб увесь маёнтак быў аддадзены цалком—або на першую, або на другую мэту.. (арт. 37). Здаецца, правы панскіх батракоў і мясцовага насяленьня забясьпечаны, прынамсь.. на фроньце пана Скшыньскага..Але як можа быць на дзеле—паводле таго-ж закону, дык значыць і як будзе ў запраўднасьці, на рэальным фроньце,—палядзімо далей..

4. Якія-ж нормы надзелаў ці прырэзак устанаўлівае праект? Адказ на гэтае пытаньне асабліва цікавы, бо праект уводзіць розныя, рознай велічыні нормы, якія з гэтага „эўрапэйскага“ фронту выглядаюць досьць „гаспадарча“...

Перад усім—фальварачныя сельскія работнікі—вясковы пралетарыят — павінны атрымаць нармальна (але неабавязкова!) з таго-ж маёнтку, дзе яны працавалі, дзялянкі... „III клясы“, ці — толькі па 6 гэктараў (арт 43).

„Карлаватыя“ (маючыя ня больш $1/2$ гэктара?..) гаспадары суседніх вёсак — сельскі паўпралетарыят—таксама могуць (!) атрымаць, калі міністар гэтага захоча, („według swobodnego uznania Min. Ref. Roln.“)—атрымаць прырэзку да сваіх „гаспадарак“ да нормы тэй самай III клясы,—ці да 6 гэктараў... Вось, што ўжо быццам бясспрэчна дае ўрадавы праект для мясцовага насяленьня, відаць, — навет і для насяленьня „Крэсаў“, якое ў шчасьлівую Польскую Аркадію зямельнага дабрабыту мае даехаць..—на гэтым урадавым цягніку—ну ў працягу 19 гадоў—у гэтай „трэцяй клясе“..

Але цікава ўсё-ж такі даведацца, хто-ж—можа йшчэ і шмат хутчэй! — мае ехаць туды-ж у першых дзьвюх клясах?—

У „II клясе“, відаць, паедуць тыя, для каго пан Міністар Зямельных Рэформ, ці адпаведныя Урады—Зямельныя ці „Рольнага Банку“ — маюць, паводле праекту, „стварыць новыя гаспадаркі“ ці навет павялічыць істнуючыя ў іх ужо не „карлаватыя“, але проста—маларольныя (ад $1/2$ гэкт. да 2, ці, можа, навет да 5?), павялічыць іх — у залежнасьці ад мясцовых варункаў — з такім рахаваньнем, каб яны былі здольны да „інтэнсыўнай вытворчасьці“. Разьмер гэткіх прывілейных гаспадарак II клясы ў Польшчы ці ў Галіччыне ня можа быць большым, як 15 гэктараў, а ў нас, на „Крэсах“, дык можа даходзіць навет да 25 гэктараў!.. Лёгка ўжо і цяпер дагадацца, хто паедзе гэтым польскім цягнікам на „Крэсах“ у гэтай II клясе.. Здаецца, ні адзін беларус-селянін яшчэ ніразу за сваё жыцьцё ня езьдзіў у панскіх „паньствах“ II клясай...

Але пабудаваная перад усім на падставе іерархічнай Польшча ўводзіць у праекце зямельнай рэформы яшчэ і першую клясу.—Першую клясу будуць складаць тыя ўжо не маларольныя, але „здаровыя“, гаспадары, якія атрымаюць новастворaныя гаспадаркі, ці атрымаюць прырэзкі, якія разам будуць тварыць „сярэднія гаспадаркі“— у Польшчы і Галіччыне па 25 гэктараў, а на „крэсах“—навет па 45 гэктараў!

Усе гэтыя разьмеры і тыпы гаспадарак устанаўляе сам—„паводле свайго вольнага жаданьня“ —пан міністар Зямельных рэформ... (арт. 36).

Але, апрача гэтых 3 клясаў гаспадарак і гаспадароў, могуць быць зроблены яшчэ гаспадаркі і вышэйшага тыпу — па 60 гэкт., якія будзе прадаваць з найлепшых маёнткаў, адабраных ад абшарнікаў,—быццам ужо—сама... Рада Міністраў... (Арт. 39).—Дык ці-ж памысьліць якісь там „хам“ Беларус ці ўкраінец лезьці разам з панамі—у гэты, можа, „міністэрскі“—салён-вагон!?.

Вось, здаецца,—і ўвесь ідэальны „фронтон“, ці „фасад“ урадовага законапраекту, скіраваны „тварам да Жэневы“.—Можна сказаць, што навет зусім ня так дрэнная тая рэформа, калі-б толькі яна праводзілася ў краі, дзе пануе сякая-такая дэмакратыя, дзе прынамся ўсе грамадзяне належаць да... аднаго сорту.

Але-ж паглядзім цяпер, што напісана між гэтымі радкамі менш заметнымі літэрамі, але затое—для рэальнага выкананьня і — перад усім на „Крэсах“.

Перад усім яшчэ раз трэба сцьвярдзіць, што ў істнуючых цяпер на „Крэсах“ і зусім ня маючых зьмяняцца варунках галоўную роль пры выкананьні „рэформы“ будуць мець якраз гэтыя тры клясы... Гэтая „клясыфікацыя“, якую ўводзіць праект, і якая мела-б пэўны гаспадарчы сэнс у іншых варунках, у нас на „Крэсах“ будзе адпавядаць не гаспадарчай сіле тых ці іншых катэгорыяў гаспадароў, але якраз—нацыянальнай ці палітычнай клясыфікацыі грамадзян на „Крэсах“. Як зусім правільна зразумелі нашы „крэсавыя“ абшарнікі, „рэформа“ мае перад усім на мэце „Крэсы“, дзе ўрад, калі будзе мець... час, знойдзе сілу ў сабе, ці будзе прымушаны польскім сялянствам, — запраўды разаўе шырокую акцыю—калянізацыі...

Вось у гэтай замене на „Крэсах“ польскага абшарніцтва польскім-жа асадніцтвам — увесь, можна сьмела сказаць, сэнс усей гэтай „зямельнай рэформы“... Бо—іншага рашэньня, іншай акцыі папросту не дазваляюць Польшчы яе... „асаблівыя гістарычныя заданьні на „Крэсах“... Для мясцовага насяленьня будуць зроблены адны толькі „жэнеўскія пазоры“, каб мін. Скшыньскі мог штосьці „шляхотна“ паказаць Эўропе на верасьнёвай сэсіі Лігі Народаў, як калісь „паказаў“ там-жа „ўкраінскі ўнівэрсытэт“ і „аўтаномію“ для Галіччыны. Бо ні ў якую „пацыфікацыю крэсаў“ палякі ня вераць, дый беларусы—так-жа сама: зашмат трэба даць гэтым „Крэсам“,—іх „мясцоваму насяленьню“, каб тут запанаваў запраўдны лад дый мір. Мо' — амаль ня поўную адмову ад „асаблівых і гістарычных заданьняў“...—Дык, зразумела, — ня пойдуць на гэта палякі, пакуль чуюць і маюць у сваіх руках уладу і сілу.

Насадзіць сярод і над беларусам польскага асадніка, даць яму столькі зямлі і грошай, каб ён быў гаспадарча мацней за мясцовага хлебароба, якога—наадварот—трымаць „паўпралетарыем“ — на 6 гэктарах—„гаспадаром трэцяе клясы“; даць асадніку палітычна столькі „галасоў“, сколькі матэматычна патрэбна (гэта аблічыць „спацыяліст“ пан прафэсар Бузэк!..), каб польскія асаднікі мелі, (як вымагае гэтага другі пан прафэсар п. Ст. Грабскі), „дэмакратычную большасьць“ на „ўсходніх крэсах“, а мясцовы беларус аставаўся, як дагэтуль, „грамадзянінам (той-жа) трэцяй клясы“, — вось уся праграма, да якой зусім выразна імкнецца на дзеле ўрадавы праект „зямельнай рэформы“, састаўляючы арганічнае зьвяно ў запраўды-ж жалезна-лягічным ланцугу польскай нацыяналістычнай палітыкі ўраду, якой цяпер так памагаюць, дый памогуць у правядзеньні „рэформы“, польскія сацыялісты...

*) Праф. Людкевіч называе „карлаватымі“ гаспадаркі, „абшарам“..—да $1/2$ гэктара.. Дык ці-ж праект мае павялічываць *толькі* такія малазямельная „гаспадаркі“?!

**) Цікавая мо' і сымвалічная абмылка у надрукаваным для Сойму праекце: ад слова „będzie“ засталося толькі „bę“... ці, так сказаць,—абяцанкі палова „będzie“,—як кажуць расейцы: надвое бабушка сказала.. „бендзе“, але „дзе“, няведама дзе!

# Усходні і Заходні фронты палітыкі С. С. Р. Р.

Бальшавікі разьвярнулі вельмі шырокую дзейнасьць, ствараючы ўсё новыя „фронты“ пануючаму імпэрыялізму.

Як заявіў Зіновьев (калі праўду пішуць бэрлінскія газэты), радавая палітыка не павінна адцягіваць сілы свае на дробныя фронты, а сканцэнтраваць іх на галоўныя. Галоўны вораг ССРР — Англія, якую трэба біць у яе найслабейшае мейсца—у Азіі. У Кітаі йдзе цяпер рашучы бой між бальшавікамі і Англіяй. З таго, як вядзе сябе англійскі ўрад, відаць ясна, на сколькі слаба Англія на гэтым фроньце. Афіцыяльныя прадстаўнікі Радаў у Кітаі вядуць зусім адкрыта барацьбу і агітацыю пераважна, калі ня выключна, проці Англіі, а англійскі ўрад ня мае духу навет афіцыяльна пратэставаць.

Наскольні небясьпечна палажэньне ў Кітаі, наскольні паважную сілу здабыла тамака ўсенароднае

# Палажэньне праваслаўнай царквы у Польшчы.

## (З прамовы сэн. Багдановіча—23/VI—1925 г. у часе дыскусіі над бюджэтам Міністэрства Асьветы і Рэлігіяў).

Бачу, што я не абмыліўся, назваўшы з гэтай трыбуны ў прошлым годзе справу палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы справай, надзвычайнай важнасьці.—Бо ані воднае з пытаньняў ня выклікала ў Сэнаце такіх гарачых спрэчак, як гэтае.

Але трэба добра зразумець, што ў гэтым пытаньні — галоўнейшае, а што другараднае; толькі тады можна будзе вырашыць гэтую палючую і балючую царкоўную справу.

Не магу пажаліцца на тое, што ўсё, што я казаў у мінулым годзе, ня было зусім пакінута ўрадам без увагі. — На-жаль, толькі гэтая ўвага была зьвернута зусім не на галоўнае.

Напрыклад, — выдаткі на каталіцкую царкву ў гэтым бюджэце ўжо ня ў 67 разоў большыя, як у прашлагоднім, а толькі... ў 16 разоў (хаця каталікоў у Польшчы штось толькі ў 3, найбольш у 4 разы больш, як праваслаўных!...). Гэта, трэба прызнаць, — вялікі прагрэс...

Але гэты матэр'яльны бок справы — рэч другарадная: ня гэтым жывуць і жывяцца цэрквы! Хацеў-бы навет падзякаваць і за гэта, але — ведама, на што пойдуць, пры сучасным палажэньні праваслаўнай царквы — гэтыя павялічаныя крэдыты... -- Гэтыя грошы пайдуць на духоўныя сэмінарыі, дзе вядзецца палянізацыя будучых сьвяшчэньнікаў, а перадусім—на ўтрыманьне тэй іерархіі, якая ўжо праводзіць гэтую палянізацыю. — Значыць, гэтыя грошы пойдуць на мэты чыста палітычныя, а не на царкоўныя! Дык мы падтрымліваем гэтую прыбаўку—не дзеля таго, што згаджаемся з такой палітыкай, а толькі дзеля таго, што, калі-б яе ня было з дзяржаўнага скарбу, дык усё роўна гэтая іерархія спагнала-б яе „царкоўным шляхам“ (!) з адных толькі праваслаўных. Дык няхай-жа на палітычную справу плоцяць усе, а не адны толькі праваслаўныя...

---

Але галоўнае, як сказана, — зусім ня ў гэтым матэрыяльным дабры; галоўная рэч—у тым, што ўрадам пагвалчана ўнутраная свабода — і кананічная чыстата царквы. Вось дзеля чаго мы галасуем проці бюджэту.

У Польшчы **4—5** міліёнаў праваслаўных; з гэтага відаць усю важнасьць пытаньня аб урэгуляваньні іх царкоўнага быту. Высокія прынцыпы Польскай Канстытуцыі, здавалася-б, гарантавалі вырашэньне гэтай справы на падставе формулы: „вольная царква ў вольнай дзяржаве“, вызвалены ад паліцэйскай апекі „народ—царква“ павінен быў заключыць саюз з „народам—дзяржавай, і гэтага дэмакратычнага конкордату ня збурыла-б ніякая сіла... Але, дзякуючы падшэптам тых безадказных кругоў, якія барацьбу з праваслаўем лічаць важнейшай, як інтэрэсы гаспадарства, польскі ўрад пайшоў іншым шляхам. Замест таго, каб шукаць саюзу з цэлым праваслаўным народам—праз яго кананічных (царкоўна-законным) прадстаўнікаў, маючых даверые народу, урад, карыстаючыся нягоднымі ўслугамі 2—3 пакладлівых іерархаў, папросту стварыў новую, сфальшаваную іерархію, каб лягчэй было з ею гаварыць... Польскі ўрад дазволіў (! можа—загадаў!?) мітрапаліту Юрыю прысланы патрыярхам Ціханам з Масквы статут для праваслаўнай царквы ў Польшчы, выкінуўшы з яго ўсё, што давала гэтай царкве Саборны (ўсенародны) лад, а пакінуўшы толькі тое, што было выгадна і давала зусім незалежную ад народу ўладу архіерэям, а перад усім самаму Мітрапаліту. Гэтым урад ясна паказаў, што ня хоча гаварыць з праваслаўнай царквой, як з праваслаўным народам. Але гэтым урад толькі выкапаў пропасьць між сабою і гэтым народам. Ды і гэтага мала, бо ўрад, перасьледуючы тых сьвяшчэньнікаў, якія карыстаюцца любоўю і давер'ем народу, гэтым самым вядзе адкрытую барацьбу з народам. І ў гэтым нічога не зьмянілася і за гэты год.

Аратар прыводзіць вядомыя прыклады высылкі агульна-шанаванага беларускім—праваслаўным насяленьнем горадзенскага архіярэя Уладзімера, хворага старыка, якога, пратрымаўшы паўтара года ў манастырскім вастрозе, раптам вывязьлі на аўтамабілі ў Варшаву, а адтуль выкінулі заграніцу.

Таксама выкінулі з Жыровіцкага манастыра прыяцеля арх. Уладзімера—архімандрыта Ціхана.

А цяпер толькі што арыштаваны няведама за што такі самы царкоўна-народны барацьбіт пратаерэй Голад, якога ўсе „праступленьні“—у тым, што ён ня хоча прызнаць „аўтакефальнай“ (асобнай ад расейскай—„самастойнай“, з сваей уласнай галавой) праваслаўнай царквы ў Польшчы.

Галоўны грэх ураду—у тым, што ён выкідае ці тэрарызуе лепшых законных прадстаўнікаў царкоўнага народу, фабрыкуючы ўзамен іх фальшывых. Трэба наагул сцьвярдзіць, што імкненьне да стварэньня фальшывых — дэкаратыўных прадстаўніцтваў — найбольш характэрная рыса польскага ўраду. Ствараюцца фальшывыя, самазванныя прадстаўніцтвы беларускія, украінскія, расейскія, марнуюцца на іх народныя грошы, і гэта ўсё—толькі для таго, каб у патрэбны дэкаратыўны мамэнт паказаць іх перад Эўропаю ці Амэрыкаю, рахуючы на тое, што чужаземцы лягчэй дадуць

арганізаванае абурэньне проці чужаземцаў (бальшавікі і немцы ня лічацца ворагамі, але прыяцелямі), відаць з таго факту, што Японія, якая доўга хісталася, ня ведаючы, да каго з ваюючых бакоў прыступаць, цяпер нарэшце, як данясьлі апошнія тэлеграмы, выбрала **шлях паразуменьня з радава-кітайскім** лагерам і рашуча адмовілася ад ваеннага супрацоўніцтва з Англіяй... І гэта—ня гледзячы на тое, што японцаў і японскія „інтарэсы“ кітайскі рух б‘е, мож, трохі менш, чым англійцаў і англійскія, але ўсё-ж такі моцна. Гэты рашучы крок зроблены Японіяй пасьля таго, як падтрымліваны ею генарал-губэрнатар Манчжурыі Чан-Гсо-Лін, які адзін толькі з усіх кітайскіх сабраняў выступаў проці бальшавікоў, апынуўся быццам на бочцы з порахам,—бо ў Манчжурыі толькі што выбухла—„камуністычная“ рэвалюцыя...

Пасьля гэтага вельмі важнага кроку Японіі, якая, як піша японская прэса, „ня можа зусім цягаць сваімі рукамі з гарачага попелу пячоную бульбу для Англіі“, палажэньне апошняй у Кітаі сталася зусім дрэнным. Вельмі магчыма, што перамога над англійцамі ў Кітаі будзе поўная: выпхнуць іх зусім, бо, зразумела, за іх не заступіцца ніводзін з іх гандлёва-імпэрыялістычных канкурэнтаў: ані Амэрыка, ні тым больш Францыя. Англія, як падлічылі ў Лёндане, траціць у выніку кітайскага байкоту і забастоўкі — каля 20 міліёнаў даляраў у дзень, а ў хуткім часе будзе цалком выпхнута і страціць зусім кітайскі рынак, бо ўжо бальшавікі вядуць вялізарную працу, каб наладзіць перавозку праз Сібір нямецкіх тавараў у Кітай...

Вось, як бальшавікі навучылі кітайцаў біць сваіх ворагаў, пачынаючы з найгалоўнейшага...

Англія, пабітая на гэтым, як сьцьвярджае яе прэса, галоўным фроньце, хоча адыгр631цца на другім, дзе слабейшым зьяўляецца ССРР. Арганізуючы, хаця вельмі слаба, і, як заўсёды чужымі рукамі, „процірадавы блёк“ на заходняй граніцы ССРР, Англія ўжо праз вызываюча доўгі час трымае вялікую частку свайго флёту ў Балтыцкім моры—недалёка ад Петраграду... На ўсякі выпадак (—бо са злосьці англійцы могуць зрабіць спробу „націснуць“ гэтак на ўрад ССРР!)—у ССРР сьпешна прымаюцца асаблівыя меры абароны былой сталіцы. Адначасна вызначаны вялікія крэдыты на будову новых ваенных караблёў.

Трэці фронт — больш дыпляматычны — на якім ССРР вядзе вайну, гэта—„фронт бэрлінскі“. Працуючы на карысьць Нямеччыны на ўсходзе і наагул, націскаючы на яе вэрсальскіх ворагаў, дзе толькі магчыма, палітыка ССРР мае права трэбаваць ад Нямеччыны, каб яна прынамся ня здрадзіла ССРР у самы важны крытычны мамэнт, блізкі, можа, перамогі...

Як ведама, Нямеччына цяпер мае выбраць сабе таварыша і саюзьніка: або Заходнія дзяржавы, якія закавалі яе ў нявольніцкія кайданы, або — ССРР... Ужо Англія, а навет і Францыя гатовы зрабіць Нямеччыне шмат уступак, каб толькі яна парвала свой саюз з ССРР (Рапальскую ўмову) і пайшла разам з імі... Ужо кіпіць навет праца па эвакуацыі акупаваных Францыяй абшараў Нямеччыны... З другога-ж боку, у Бэрлін паехаў, разам з нямецкім паслом у Маскве, заступнік наркома па загранічным справам Літвінов, а ў Маскве адбыліся нарады Чычэрына з радавымі пасламі пры ўсіх галоўных дзяржавах. Немцы добра разумеюць, які козыр яны маюць у руках, будучы ў саюзе з ССРР. У выніку нарадаў, здаецца, дайшлі да згоды. На такіх падставах Нямеччына мае падпісаць „гаранцыйны пакт“, але абязалася перад ССРР стаяць на тым, каб не прапусьціць праз сваю тэрыторыю францускага войска ў выпадку польска-расейскай вайны... Рапальская ўмова астаецца ў сіле. Што датычыць уваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, дык і на гэта згадзіліся, быццам, дыпляматы ССРР, а навет, здаецца, маюць і самі прысылаць на верасьнёвую яе сэсію прадстаўнікоў ураду, якія будуць „прыглядацца“ да ўсей акцыі і разам з немцамі апрацоўваць супольную лінію тактыкі.

# Аб чым пішуць.

### „Ад чаго залежыць нашае вызваленьне“?

Гэткае пытаньне стаўляе сабе „Krynica“ і ў апошнім нумары дае ў перадавой стацьці вось такі адказ:

> Залежыць яно ад таго-ж, ад чаго залежаць наагул вызваленьні народаў. Мы—асобны Беларускі Народ з доўгім гістарычным жыцьцём. Гэта аснова нашага жыцьця і адраджэньня. Але з розных прычын наш народ перастаў жыць дзейным жыцьцём, заснуў. Стаў быццам той скарб закапаны ў зямлю й зачараваны. Покуль гэтакі скарб ня скіне з сябе чараў — закляцьця, дык карысьці з яго нямашака жаднай.
>
> Гэтак і з намі. Пакуль мы спалі, патуль ня мелі жаднага значэньня ў сьвеце, патуль з намі ніхто ня лічыўся. Суседзі нашыя чакалі тое часіны, калі яны пажывяцца гэтым скарбам. Але яны абмыліліся. Усоненая і зачарованая Беларусь сама з сябе скінула чары, прачнулася ў значнай меры са сну, а гэта сваім нацыянальным рухам, сваім адраджэньнем. Ад пачатку беларускага адраджэньня, тым болей з беларускім народам лічацца, чым дужэйшае гэтае адраджэньне было. Лічыліся крыху з нашым народам ужо ў 1905 годзе, калі дазволілі друкаваць кнігі і газэты ў роднай мове. Лічацца шмат болей цяпер. Але лічацца яшчэ не даволі.
>
> Што вызваленьне народу залежыць ад яго самога, а не ад вонкавых акалічнасьцяў, паказалі апошнія гады. У 1918 г. трымільённы літоўскі народ вызваліўся, вызваліўся і $1^1/_2$ мільённы латышскі народ, ды яшчэ меншы за яго эстонскі, але 12 мільённы беларускі ня вызваліўся. Дабіліся сваей незалежнасьці Ірляндцы, хоць у ангельскай імпэрыі ня было рэвалюцыі. Літвіны таксама ўтварылі сваё гаспадарства без рэвалюцыі. Беларусы-ж, хоць у некалькі разоў вялікшыя за кожнага з вышэйвыменених народаў, ня вызваліліся, бо былі мала сьвядомыя, ды яшчэ меней арганізаваныя.
>
> Дык нашае вызваленьне залежыць ад нашае працы дзеля ўсьведамленьня і арганізаваньня роднага народу, наўперад дзеля арганізаваньня сялянства, якое складае галоўную гушчу нашага народу. Няхай кожны стане сьвядомым, будзе любіць свой народ і сваю Бацькаўшчыну, дык ня будзе такіх путаў, якія-бы не даліся. Адраджэньне ідзе наперад, хай кожны яму памагае, хай кожны ведае, што ягоная і найменшая праца прычыняецца да скарачэньня мучэньняў нашага народу. Пры гэткай працы недалёка будзе часіна вызваленьня. Дарагі скарб — нашая Бацькаўшчына сваім адраджэньнем абароніцца ад сваіх няпрыяцеляў. Скарб гэты пачынае ўжо пячы ім рукі.
>
> Адно—гэтак вызвалімся.
>
> Гэта, аднак, ня значыць, што маем адмовіцца ад выкарыстаньня вонкавых акалічнасьцяў. Не, акалічнасьці трэ‘ прыймаць заўсёды пад увагу, але, будучы сьвядомымі і арганізаванымі, мы акалічнасьці выкарыстаем, а ня нас выкарыстаюць чужнікі.

Падаючы гэты голас аб значэньні нацыянальнага адраджэньня дзеля вызваленьня народу, мы павінны ўсё-ж такі адзначыць, што аднаго яго—бязумоўна мала. І хоць літвіны, латышы і эстонцы дабіліся незалежнасьці і без рэвалюцыі (ірляндцы сто гадоў вялі сваю рэвалюцыйную працу!), дык стварэньне іх дзяржаў, таксама, як і Польшчы, было вынікам вялізарнага міжнародавага перавароту і новага ўкладу міжнародавых адносінаў, зьмена якіх можа таксама лёгка пазбавіць іх незалежнасьці, як лёгка—„бясплатна“—надзяліла іх ёю....

Поўнае забясьпечаньне незалежнасьці ўсім народам, а ў тым ліку і беларускаму (—ведама, калі ён таго будзе дабівацца!), магчыма толькі пры грунтоўнай перастройцы сацыяльнае будоўлі і сацыяльных адносінаў на ўсім сьвеце!..

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Вайна ці „ігра“?

Паміж Польшчай і Нямеччынай, як ведама, не чакаючы вынікаў перагавораў, польскі ўрад налажыў „забаронныя“ мыты на цэлы рад тавараў, якія Нямеччына ўвазіла ў Польшчу.

У адказ на гэта нямецкі ўрад назначыў вялікае мыта таксама на цэлы рад прадметаў польскага экспорту. Абложаны высокімі мытамі: жыта, ячмень, бульба, сьвіньні, мяса, сала, яйкі, мука, крахмал, дрэва, трубы, бляхі, дрот і інш.—Якраз, як бачым, галоўныя тавары польскага вывазу. „Мытная вайна“, ці, як ня столькі дасьціпна, як... весела, выразіўся ў сваім апошнім „экспозэ“ пан прэм‘ер Грабскі, пачалася...—Хто-ж раней запросіць пардону ў гэтай ігры, яшчэ няведама...

### Канфлікт на польска-радавай граніцы.

Польскае Агенцтва паведамляе:

27/VI быў захоплены бальшавікамі і заведзены на радавую тэрыторыю паручык пагранічнай старожы Моньчыньскі. Начальнік атраду патрэбаваў выдачы яго назад. Перагаворы скончыліся сутычкай, у часе якой польскія жаўнеры перайшлі граніцу і разгрямілі радавую пагранічную казарму. Па пратэсту радавага пасла ў Варшаве польскі ўрад загадаў спэцыяльнай камісіі зрабіць рассьледаваньне.

Расейскае Агенцтва паведамляе:

У раёне Лепяшоўка—Шылікі польскае войска напала на радавую тэрыторыю, прычым 2 польскія афіцэры патрэбавалі ад начальніка вартоўні № 8 выдаць праз 5 мінут польскага дэзэртыра, пагражаючы інакш „аб‘яўленьнем вайны“. Праз 5 мінут афіцэры зьявіліся ізноў і патрэбавалі, каб вартоўня № 8—разам з людзьмі і ўсім, што там ёсьць, паддалася. Атрымаўшы адмову, яны—у сіле 25 жаўнераў пяхоты і 20 кавалерыстаў—напалі на вартоўню і спалілі яе, зьбіўшы і зраніўшы начальніка яе. Радавы атрад адступіў. Страляніна цягнулася паўгадзіны. На польскім баку граніцы—нейкі рух войскаў. Адрэзак абвешчаны на выняткова палажэньні. Паводле апошніх вестак, 1/VII польскія пагранічнікі ізноў абстрэлівалі вартоўню. Часьць іх перайшла граніцу, але была спаткана агнём. На польскім баку робяцца акопы, драцяныя кардоны і падмуроўкі для гарматаў... Камісія аблічае страты, зробленыя Радам польскім войскам.

(? няма дурняў!) Польшчы свае ліры, франкі ці даляры... Але з гэтага нічога ня выходзіць, (бо заграніцай ведаюць усе — ня горш, як у Польшчы): палітыка шчырасьці была б папросту навет карысьнейшай!..

Небясьпеку гэткай палітыкі фальшывых рэпрэзэнтацыяў (сфабрыкаваных з розных прадажных наймітаў) пачалі ўжо разумець шмат хто з палякоў. Вось, што пісала віленскае кансэрватыўнае, навет манархічнае „Слова“.

„Кожнае назначэньне сярод царкоўнай іерархіі ўрад разглядае толькі з пагляду на... лёгкасьць перагавораў з імі. Замест іерархаў з цьвёрдымі прынцыпамі падтрымліваюцца і высоўваюцца іерархі з гібкімі сумленьнямі“. Або яшчэ—„мы лічым, што, бязумоўна, трэба скончыць з тым, каб аблягчаць сабе ўплыў на царкву (праваслаўную) шляхам падтрыманьня і высоўваньня на вышэйшыя ступені ў ёй розных кар‘ерыстаў „z pod ciemnej gwiazdy“ (Słowo 5/VI—1924 г.).

Высьветліўшы пытаньне аб аўтакефаліі, якая зроблена зусім не законным шляхам, дык і ня мае ані кананічнага значэньня, ані жыцьцёвай моцы, аратар перайшоў да няспыняючайся „дзеяльнасьці ўраду—у поўным паразуменьні“ з „аўтакефаліяй“ (з галавой рапа Piekarskiego) іерархіі—па скасаваньні праваслаўных прыходаў на „Крэсах“. Касуюцца здаровыя прыходы, па 2.000—3.000 душ, з царквой, з землямі, якімі царкоўная грамада валадала сотні гадоў. — Сьвяніцкі, Палонкаўскі (Ваўкавыск. пав.), Байкаўскі прыход, Пружанск. пав., Маламажэйкаўскі прыход—з царквой, пабудаванай аж у 1409 годзе!), Дзятлавіцкі, Паручынскі і шмат іншых зачынены і зямля адабрана. Дзіва-ж, што сфальшаваная—якраз дзеля гэтай „згоднасьці на ўсё“ — іерархія дае сваю згоду на гэткае зьніштажэньне прыходаў, ня гледзячы на просьбы, зьверненыя да яе і да ўраду аб іх захаваньне—з боку мясцовага насяленьня.

Зразумець, дзеля чаго гэта ўсё робіцца, дае прыклад аднаго гэткага зачыненага прыходу—Дзеляціцкага. Але, калі некалькі прыхаджан, паводле рады ксяндза, зьвярнулася да ўніяцкага мітрапаліта, дык зараз-жа па прыезьдзе ўніяцкага ксяндза цэркаў была адчынена і прыход адкрыты ізноў, а праваслаўнага сьвяшчэньніка ваявода высяліў з граніцаў ваяводзтва.

Я зусім ня проці таго, каб польскі ўрад памагаў каталіцкаму ці ўніяцкаму насяленьню ў падтрыманьні іх рэлігійнага пачуцьця, але гэта трэба рабіць зусім іншым шляхам.

Усё гэта паказвае, што палітыка ўраду шкодзіць ня толькі дзяржаве, але і самаму ўраду. Гэткія фальшывыя прадстаўнікі царквы, якія ня маюць адвагі абараніць перад урадам той ці іншы патрэбны насяленьню прыход, пасьля, калі народ абураецца проці іх, таксама ня маюць адвагі прызнацца ў сваёй віне і хаваюцца за карк ураду.

У рэзультаце гэткай палітыкі зьліквідаваны канфлікт між іерархіяй і ўрадам, але нарастае (!) канфлікт паміж урадам і народам.

Дзякуючы недахвату часу з усей масы спраў, зьвязаных з палажэньнам праваслаўнае царквы ў Польшчы, закрану толькі справу „абыватэльства“ для духавенства. У мінулым годзе, пасьля маей прамовы б. начальнік аддзелу „іншых вызваньняў“ пан Стшалкоўскі запэўняў мяне „słowem honoru“, што справа будзе „natychmiast“ вырашана прыхільна да духавенства. Прайшоў год, і я ня ведаю, чаго зроблена больш за гэты час — ці „прызнана“ абыватэльстваў ці... адабрана—у бясьпярэчых грамадзян Польшчы. Цяпер паўсюды мясцовыя ўлады адкрыта ставяць варункам атрыманьня „абыватэльства“ падпіску сьвяшчэньніка, што ён прызнае „аўтакефалію“.

Дык вось, далёка ня поўны абраз тых спосабаў, якімі польскі ўрад выяўляе голас „вольнай царквы“ ў вольным гаспадарстве. Дык ці-ж варта таму, хто карыстаецца гэткім спосабам, казаць аб немаральнасьці гэткай палітыкі.

У канцы праваслаўны сэнатар, здаецца, адзін з усяго польскага і каталіцкага Сэнату падняў голас абурэньня проці таго, што робіцца з каталіцкімі сьвяшчэнікамі (бо-ж беларусамі!) — Гадлеўскім у Жодзішках—толькі за тое, што той казаў пропаведзі ў касьцеле пабеларуску,—Шутовічам у Барадзенічах—за выкладаньне рэлігіі ў школе на матчынай меве — беларускай,—Семашкевічам у Лаварышках і Пятроўскім ў Даўгінаве.

Навет рэлігійна-прасьветнаму таварыству каталіцкіх ксяндзоў адмоўлена ў легалізацыі — толькі за тое, што гэта мела быць беларуская ўстанова!..

### Рэзалюцыі сэнатара Багдановіча.

1) Праваслаўнаму насяленьню павінна быць згодна з Канстытуцыяй—забясьпечана магчымасьць вольнага ўнутранага самаўраду; не павінна рабіцца ніякіх перашкодаў да склікаваньня царкоўнага сабору—паводле кананічных правілаў праваслаўнай царквы.

2) Зьмяншэньне лічбы прыходаў павінна быць спынена да вырашэньня гэтага пытаньня ў законадаўчым парадку.

3) Чым хутчэй, вырашыць справу аб атрыманьні правоў польскага грамадзянства праваслаўным духавенствам, а дагэтуль фармальная адсутнасьць гэтых правоў ня можа быць перашкодаю ў выпаўненьні абавязкаў пастыра.

4) Выкладаньне навукі ў духоўных сэмінарыях павінна вясьціся на матчынай мове. Прынята толькі 2-ая і першая палова 3-яй рэзалюцыі.

# Заграніцай.

## Нямеччына і „гаранцыйны пакт“.

У адказ на францускую ноту аб „пакце“ нямецкі ўрад папрасіў больш выразна адказаць на гэткія пытаньні:

1) Ці Францыя згаджаецца, каб нямецкая ўсходняя (з Польшчай) граніца была зьменена — мірным шляхам?

2) Ці Францыя згодзіцца свой ваенны дагавор з Польшчай дапоўніць так, каб Францыя абязалася бараніць і ўсходнюю граніцу Нямеччыны... проці Польшчы, бо інакш гэты дагавор быў-бы варожа скіраваны толькі проці Нямеччыны, што быццам выключаецца новым пактам.

Як выкруціцца з гэтых пытаньняў дыпляматычны геній Брыяна, ня ведама.

## Францускія клапоты.

На вонкавым фроньце ў Марокко справы францускія стаяць дрэнна, але затое францускі ўрад атрымаў вялікую перамогу (?) на парляманцкім полі барацьбы.

Пасьля прамовы прэм‘ера ўрад атрымаў даверые вельмі значнай большасьцяй палаты — 510 проці 30. Прыдаліся вельмі камуністы, якімі страшыў Пэнлевэ сацыялістаў, сьпярша хацеўшых адмовіць ураду ў даверы. Лоўка карыстаўся прэм‘ер і даводамі аб небясьпецы, якая пагражае „заходняй цывілізацыі“ (ці эксплёатацыі) ў Афрыцы і „прэсьціжу“ францускага іменьня ўва ўсім сьвеце, калі Францыя „выявіць слабасьць“ у Афрыцы.

Ведама-ж, заўсёды ўсялякі гвалт імпэрыялістаў прыкрываецца „інтарэсамі заходняй цывілізацыі“. Добра ведаем гэта і мы ў сябе дома.

Сваей „дзяржаўнай“ прамовай Пэнлевэ аб‘яднаў (пакуль-што) нацыяналістаў і сацыялістаў (як і ў нас!). Але ўсё шло гладка для правых і левых патрыётаў, толькі датуль, пакуль ня прышлося за гэты „трыумф цывілізацыі“ плаціць грошы. Бо, калі Кайо паставіў перад патрыётамі справу францускіх фінансаў, дык ізноў пачаўся раскол, пагражаючы звальненьнем ураду. Кайо наважыўся больш падабацца правіцы, шкадуючы кішані багатыроў. Сацыялісты, якіх прапазіцыю ён адкінуў, ізноў паднялі справу аб адмове ў даверы ўраду. Партыйны ўрад і парляманцкі клюб разыйшліся ў пастановах (!), і склікаецца агульны зьезд партыі, які аканчальна вырашыць справу.

Сацыялістычная прэса вельмі дасьціпна піша, што ляпей падтрымаць можа гэты габінэт, але каб не дапусьціць да ўлады нацыянальны Блёк... Хаця-б гэты „лявіцовы“ ўрад і рабіў—акурат тое самае, што рабіла-б, атрымаўшы ўладу, „правіца“.

Зусім, як нашы польскія сацыялісты.

## Вайна ў Марокко.

Гішпанія запрапанавала Абд‘-Эль-Крыму гэткія варункі міру:

1) Гішпанія плоціць яму 4 мільёны пэзэт;

2) Прызнае аўтаномію рыфэнаў (паўстаўшае племя—галава ўсяго руху)—пад гішпанскім сувэрэнітэтам (дзяржаўнай уладай — хаця-б толькі для гонару, але не фактычна);

3) Гішпанія пабудуе порт і чыгўнкавы шлях на гэтай тэрыторыі.

Абд‘-Эль-Крым адказаў адмоўна, дамагаючыся прызнаньня поўнае незалежнасьці краіны Рыфф.

## Чарговы пераварот у Грэцыі.

У Грэцыі адбыўся чарговы пераварот. Пераварот пачала група афіцэраў м. Салонік з генаралам Пангалёсам на чале. Паўстаньне проці ўраду Міхалёпулёса хутка перакінулася ў сталіцу — у армію і флёт, які, узяўшы пад пагрозу абстрэлу гмах Рады Міністраў, змусіў урад выйсьці ў адстаўку.

На чале новага ўраду стануў генарал Пангалёс.

Пераварот выкліканы абурэньнем грамадзянства проці прадажнага і трусьлівага ўраду, якім быццам папросту камандаваў урад Югаславіі і які пацíху абрабляў прыватныя інтарэсы сваіх міністраў і прыхільнікаў,—проста прадаваў дзяржаву і абкрадаў скарб. Быццам, справа дайшла ўжо да таго, што Югаславія зажадала дазволу ў грэцкага ўраду правясьці сваю — югаслаўскую чыгункавую дарогу ў Салонікі—праз Грэцкую тэрыторыю.

Новы ўрад, як заявіў генарал—прэм‘ер, маніцца перад усім адбудаваць дзяржаўны гонар Грэцыі, вызваліўшыся з пад уплываў Югаславіі, а дзеля гэтага... „стварыць адпавядаючую гэтаму гонару армію, якая абароніць край ад усялякіх нападаў“.

## Новы трыумф радавых уплываў у Кітаі.

У Кантоне (сталіцы паўдзённага Кітаю) стварыўся новы ўрад, вельмі прыхільны да бальшавікоў, — з прэм‘ерам Ку-Гу-Мін‘ам на чале.

Галоўная апора проці-бальшавіцкіх уплываў у Кітаі—манчжурскі сатрап Чанг-Тсо- Лін пачаў хістацца, бо ў „яго краі выбухла рэвалюцыя. З гэтай апошняй пляцоўкай“ валіцца апошняя ўнутраная апора чужаземцаў у Кітаі. І тады—або запраўдная вайна ўсіх іх проці Кітаю, або—паводле рэцэпту Карахана і Троцкага—вон, дарагія госьці, з кітайскага дому!..

# ХРОНІКА.

**Арышт рэдактара Гэрмановіча.** У Вільні паліцыя заарыштавала рэдактара газэты „Іскра“, грам. Гэрмановіча. Прычына арышту—невядомая. У выніку гэтага газэта „Іскра“ прыпынілася — да часу звальненьня рэдактара з вастрогу.

**Новая часопісь.** Новаўтвораная ў Сойме Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада маніцца ў хуткім часе распачаць выдаваньне свайго афіцыозу. Новая газэта праўдападобна будзе друкавацца ня ў Вільні, а ў Варшаве.

Гэтак лічба ідэйных беларускіх часопісяў павялічыцца.

**Прыезд швайцарскага журналіста.** У Вільню пpыяжджаў выдатны швайцарскі журналіст, рэдактар газэты „Journal de Geneve“, Вільям Мартэн, дэлегат на зьезд таварыстваў прыяцеляў Лігі Народаў, які адбываецца ў Варшаве. Грам. Мартэн вельмі цікавіўся беларускім і літоўскім пытаньнем і, ня гледзячы на „апеку“ прыстаўленага да яго ўрадоўца міністэрства заграніччных спраў, адбыў канфэрэнцыі з беларускімі і літоўскімі дзеячамі, знаёмячыся з палажэньнем у Польшчы гэтых „меншасьцяў“.

**Пахароны Т. Врублеўскага.** У панядзелак, 6 ліпня, на магільніку „Роса“ ў Вільні адбыліся пахароны вядомага адваката Т. Врублеўскага, памершага 3 ліпня на 68-м годзе жыцьця.

Натоўп народу быў дужа вялікі. І мо‘ першы раз ад часу стварэньня незалежнае Польшчы над труной паляка зыйшліся прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасьцяў нашага краю: беларусы і літвіны, палякі, расейцы і жыды.

Над магілай прамаўлялі ажно шасьцёра аратараў: ад беларусаў—кс. Станкевіч і сэнатар Багдановіч, ад літвіноў—д-р Альсэйка, ад палякоў—адв. В. Абрамовіч, адв. Ян Пілсудскі і дырэктар унівэрсытэцкае бібліатэкі Крыдэль. Паскольку прамовы беларусаў і літвіна былі пранікнуты глыбокім пачуцьцём і шчырым жалем, пастольку польскія паражалі сваей сухасьцяй, „казёншчынай“. Відаць, дзеяльнасьць нябожчыка далёка не да спадобы была „пануючай нацыі“...

Беларускае грамадзянства злажыла на магілу вянок—„**свайму абаронцу**“.

**Хвароба грам. Луцкевіча.** Як мы даведаліся, вядомы беларускі дзеяч, Антон Луцкевіч, у апошнім часе шмат падупаў на здароўі. Стан яго здароўя прымушае яго на нейкі час устрымлівацца ад чыннае палітычнае працы.

# ГОРАДНЯ.

— Горадзенскім Акружным судом 16 ліпня 1925 г. будзе разглядацца справа „14“ палітычных вязьняў з арт. 129 і 102 К. К. Абвінавачаныя: сэкрэтар саюзу гмінных працаўнікоў Эпштэйн, кіраўнік рабочай сталовай Голуб, хвэльшар Шафранскі, сэкрэтар саюзу іглы і жыдоўскай школы Фэльляўвэр ды інш.

— 24 чэрвеня 1925 г., а 12 гадз. дня да М. Дразьніна, 39 г., які мае галантэрэйны магазын, прыйшлі два сэквэстратары з „urzędu skarbowego“ дзеля спагону 700 зл. падаткаў.

Дразьнін пачаў прасіць, каб разлажылі яму на раты, і ён заплаціць, бо так зразу 700 злотых цяжка заплаціць. Але-ж на яго просьбу не зьвярнулі ўвагі.

Тады Дразьнін выйшаў з хаты і вярнуўся а 11 гадз. ўначы. Калі жана і дзеці ляглі спаць, ён узяў рушнік і выйшаў з хаты і пайшоў на Прачасны завулак. Па дарозе ён згубіў рушнік і, зьняўшы з сябе ніжнюю бялізну, павесіўся на ёй на дзераве.

А 2 гадз. ўначы Дразьніна зьнялі з дзерева. Па нябожчыну засталася жана і двое дзяцей.

— 30 чэрвеня вывешаны ў Горадні абвесткі аб „doraźnych sądach“ на беларускіх землях, якія мецімуць сілу ад 1 ліпня да 31 сьнежня 1925 г.

**Альфа.**

# Карэспандэнцыі.

## Ня слухайце спакусы.

*(В-ка Даўгінава, Наваградзкага пав.).*

Усюды горкая доля сустракаець з самага пачатку маючую некалі істнаваць беларускую школу. Ня ў лепшым стане яна знаходзіцца і ў нас. Не зважаючы на ранейшыя заявы і цяперашнія дэклярацыі бацькоў, ураду ўбілася ў галаву, што школа ў нас патрэбна толькі для некаторых адзінак, якія падбураюць на гэта і другіх. З гэтай мэтаю пан Інспэктар ня скрыўдзіў і нас, прыслаўшы нам нейкага пана, каб пераканаўся на мейсцы, ці запраўды бацькі жадаюць сваей беларускай школы. Прыехаўшы да школы, ён загадаў дзецям, каб яны паклікалі сваіх бацькоў і, калі апошнія зьявіліся, дык пачаў іх па двох пускаць у памешканьне і там іх угаварваць, каб падпісаліся на дзьвюхмоўную школу, рознымі шляхамі даводзячы, што ад беларускай школы ня будзе карысьці. Ня ведаю, ці гэты пан (дачуваюцца, што ягонае прозьвішча Вароновіч) быў ужо гэткі, як кажуць, „златоуст“ ці проста, яго асоба запужала бацькоў, каб ня сьмелі рабіць яму насупраць, бо аж 4-х бацькоў падпісаліся на дзьвюхмоўную школу, але рэшта стойка вытрывала пры сваім. Калі-ж іншыя, з меншай сілай волі, чулі, што на іх маець уплыў доказ пана Вароновіча, дык тыя, не чакаючы рэзультатаў нагавору, пакідалі школу са славамі: „не жадаю іншае школы, як ужо сказана ў дэклярацыі, зложанай да інспэктара“ і гэткім чынам брава адстаялі свае правы, саромячы ўжо распісаўшыхся жыхароў, якія казалі, выходзячы са школы, што ўсё роўна ўсе падпішуць, як пачуюць доказы гэтага „пана“. Цяпер гэтых людзей у нас называюць шляхтаю і навет радзяць ім, каб купілі сабе шапкі з блішчатымі вялікімі казырамі, каб „шляхціц шляхціца бачыў здалёку“, а беларусы каб ведалі сваіх здрайцаў, якія па сваей слабай волі яшчэ ўчора жадалі беларускай школы, а сёньня ўжо хочуць польскай, адракаючыся ад сваіх папярэдніх жаданьняў. Адзін з іх, Пракоп Бажко, хутка пасьля падпіскі адумаўся, што зрабіў блага, і ўсімі сіламі стараўся даказаць перад іншымі сваю нявіннасьць, вінавацячы ў гэтым свайго „сябру па панскай споведзі“, што той даў яму прыклад. Ен навет хацеў ісьці да таго пана, каб узяць назад свой подпіс і змыць гэтым брудную пляму, але, як кажуць, „што з воза ўпала, тое й прапала“.

Дык ня дзіва, браткі, што беларускай школе надта цяжка ўтварыцца. На яе нападаюць цэлыя сотні падобных Вароноў, Галкаў, Мурашкаў і іншых, якія, хоць і зьяўляюцца мізэрнымі па сваей сіле шкадлівасьці, але іх ёсьць надта многа, каб ствараць вялікія перашкоды для нас беларусаў. Але ведайце, грамадзяне, што нас яшчэ балей! Нас, сьведама жадаючых сваіх школьных правоў, ёсьць цэлыя вёскі, месты і мястэчкі—наагул, уся Беларусь, бо селянін наш ужо ведае, дзе цемра і дзе сьвятло. Дык, браткі, не апускайце ў няўдачах нізка сваіх галоў! Верце, што час і будучына вырашаць усё, чаго жадаюць народныя масы. Сваей школы мы даб‘емся, не зважаючы на гэтыя хітра прыдуманыя перашкоды.

**Тутэйшы.**

## „Слугі божыя б‘юцца“.

*(З Дзісеншчыны).*

Ад вайны застаўся вельмі дрэнны, але шырока распаўсюджаны звычай біцца. Б‘юцца ўсюды і ўсе. Б‘юцца і цяперака гарматамі і кулямётамі, але гэта далёка. У нас-жа б‘юцца прасьцей — кіямі, кольбамі, шаблямі, дошкамі, шомпаламі — усё аружжам „халодным“, ня кажучы ўжо аб гэткай дзяцінай забаве, як біць у морду, у вуха і г. д. Але яшчэ ня біліся крыжамі, дык-жа й гэта ўходзіць ужо ў моду сярод „слугаў божых“.

Гэтак нядаўна сьвяшч. Галамыскай царквы, Мікалаеўскай вол., айцец Ч—скі пабіў крыжам свайго дзяка Савіча, а сьвяшч. Цьвяцінскай царквы, Язенскай вол., айцец Н—скі, гэтак „пачаставаў“ свайго дзяка старыка Паўлоўскага, што апошняга вазілі ў Дзісенскую бальніцу. Ведама, айцам настаяцелям заўсягды ўсяго мала, дык і апошняе забралі-б. Ну, а бедным дзякам крыўдна і ня хочуць паддавацца, дык тады „пастыры Хрыстовы“ бяруцца за крыж і кідаюцца на „супостата“.

Айцы „духоўныя“ „аўтакефальнае“ царквы, лепш кіньце біцца, а выпаўняйце загад „асьвяшчэнага“ Сыноду аб ужываньні пры казаньнях народнай мовы — у даным выпадку нашай беларускай, бо і дагэтуль вы ўсё „еже“ ды „аще“. А як пазнаеце ўсю бяду і нядолю свайго народу, дык кінеце і „культурны“ звычай—біцца.

**Зязюля.**

# БІБЛІАГРАФІЯ.

У Віцебску распачаўся друк беларускіх кніжак, хаця тамтэйшыя друкарні адносяцца да беларускага друку вельмі няўважліва і не паруліліся аб такую драбніцу, як выпісаць ў і ё, без якіх часта прост калечацца беларускія словы. Тым вялікшая заслуга выдаўцоў, якія, ня гледзячы на гэта, ўсё-ж стараюцца пераламаць уеўшуюся глыбака ў гэтым старым беларускім месьце маскоўшчыну ў „истинно-русском духе“.

Мы атрымалі чатыры невялічкія кніжачкі, надрукаваныя сёлета ў Віцебску, а іменна:

1) М. Касьпяровіч. **Беларуская архітэктура.** Абрыс з прадмоваю М. Шчакаціхіна (з рысункамі).

2) Д-р Іпэль. **Беларускае Мастацтва.** Пераклад з нямецкае мовы З. Гарбаўца і М. Касьпяровіча (з рысункамі).

3) А. В. Багдановіч. **Новая Беларуская Літэратура.**

4) М. І. Касьпяровіч. **Беларуска-расейскі слоўнічак.**

Усё гэта — невялічкія кніжачкі, на пагляд выданыя са смакам. Выдавец—Віцебскае Акруговае Таварыства Краязнаўства.



Выдавец: Лявон Бэбровіч.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.